# Дзяньніца
# Dziańnica

ІНФАРМАЦЫЙНАЕ ВЫДАНЬНЕ ГРАМАДЗКАГА АБ'ЯДНАНЬНЯ "УСЯСЛАЎ ЧАРАДЗЕЙ" ЖНІВЕНЬ 2000 № 8

*у сёньняшнім нумары чытайце:*

Напачатку сямідзесятых гадоў самым папулярным пісьменьнікам у маладзёвым асяродку быў, безумоўна, Эрнэст Гэмінгуэй. Гераічны пэсымізм, прыхаваная мужнасьць і стаіцызм ягоных герояў не маглі не імпанаваць тадышняй "прасунутай" моладзі. Да таго ж мала хто з пісьменьнікаў пражыў такую эфэктную, напоўненую прыгодамі, віном і халерна прывабнымі кабетамі жыцьцё. Гэтаму цяжка даць веры, але менавіта Гэмінгуэй — пісьменьнік, які, відаць, і ня ведаў пра існаванне нашай Беларусі, абудзіў у аўтара надрукаваных тут нататак любоў да Беларушчыны.

* * *

У гэтым нумары рэпрэзэнтуецца таксама неўласьцівы для падобных выданьняў жанар, а менавіта казка, у якой апавядаецца пра неверагодныя падзеі, што надарыліся ў Белым Лесе.

* * *

Наш аўтар, Ю. Іваноўскі, друкуе нататкі, якія, відавочна, многім не спадабаюцца.

* * *

Міхась Баўтовіч — гісторык з Полацка — апавядае пра тое, як ставіліся да свабоды і незалежнасьці краю нашыя бліжэйшыя суседзі латышы.

* * *

На апошняй старонцы бюлетэня друкуюцца матар'ялы пра маладзёвы каталіцкі фэст і новую кнігу, што выйшла ў выдавецтве "Сафія".



Фота Рамуальда Казлоўскага.

З той пары ўжо мінула дзевяць гадоў, але я да дробных дэталяў запомніў той дажджысты верасьнёўскі дзень, калі мы, пяцёра новапалачанаў, узьнялі над горадам наш бел-чырвона-белы сьцяг.

19 верасьня 1991 года Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь зацьвердзіў у якасьці дзяржаўнага сымболю беларускі нацыянальны сьцяг. Радасьць мая была бязьмежнай і, праяжджаючы на аўтобусе міма гарвыканкаму, я кожнага разу зацята глядзеў на флягшток, у спадзеўцы ўбачыць на ім нашу сьвятыню. Але міналі дні, а над выканкамам паранейшаму вісела бальшавіцкая харугва. 23 верасьня мы правялі сход сябраў наваполацкай суполкі БНФ і адразу пасьля сходу пайшлі да гарвыканкама, каб узьняць над горадам наш сьцяг.

Было нас пяцёра: я, Ларыса Малашэня, Васіль Храмцоў, Сяржук Сокалаў-Воюш і Рамуальд Казлоўскі — апошняга, на жаль, ужо няма сярод нас.

У гарвыканкаме дзяжурыў міліцыянт, які, пачуўшы пра мэту нашага візыту, пусьціў нас у будынак, але патрапіць на дах мы ня далі рады: ключы ад паддашкавага люку былі невядома дзе і мы, паблукаўшы па калідорах, вырашылі патрапіць на дах праз будынак управы нафтаправоду "Дружба", які прымыкаў да гарвыканкаму.

Акурат у той час дах управы раманталі і тамтэйшы вартаўнік, блытаючы нас з рамонтнікамі, запытаўся: — Залівацъ ідзеце? — меласся на ўвазе — залівацъ дах гудронам. І мы дружна адказалі: — Залівацъ!

Ішоў спорны дождж, над нашымі галовамі ляцелі хмары, але мы не заўважалі ні хмараў ні дажджу. Мы ўздымалі над горадам бел-чырвона-белы сьцяг.

Ну а стары бальшавіцкі мусілі скласьці ў некалькі столак і забраць з сабой, каб потым перадаць у музэй.

У траўні 1995-га, пасьля славутага рэфэрэндума, я ізноў завітаў у гарвыканкам, але з усім іншым настроем. Зайшоў у габінэт кіраўніка справамі выканкаму і папрасіў аддаць мне бел-чырвона-белы сьцяг, які яшчэ зусім нядаўна вісеў на флягштоку. Сьцяг мне хацяі са складанасьцямі, але аддалі і я яго захоўваю з думкаю, што рана ці позна ён ізноўку будзе ўзьняты ў вышыню — цяпер ужо назаўсёды.

**АНАТОЛЬ КУЛІК.**

**На здымку: (зьлева направа) Васіль Храмцоў, Анатоль Кулік, Сяржук Сокалаў-Воюш, Ларыса Малашэня**

# THE SUN ALSO RISES

Ужо і ня памятаю — хто мне даў тую кніжку. Танклявую дзетгізаўскую кніжку з пушком на вокладцы і шыхтом няроўных літараў: “Старик и море”...

Чытаючы гісторыю аб кубінскім рыбаку, аб ягоным змаганьні зь велізарнай меч-рыбай, я, наваполацкі шкаляр, упершыню адчуў — які мізэрны чалавек у параўнаньні з бяздоннай глыбінёй акіяну і як самотна яму пад высокімі зоркамі.

Гэта потым я прачытаў “Сьмерць героя” Олдынгтана, “Трыюмфальную арку” Рэмарка, “Падзеньне” Камю, “Майстра і Маргарыту” Булгакава, “За шклом” Мёрля і зразумеў, што Мэксыканская затока — не адзіная прыгожая мясьціна ў сьвеце, а Гэм — далёка не апошняя старонка сусьветнай літаратуры. Але тады, прыканцы шасьцідзесятых, маім кумірам быў Гэмінгуэй і я ўрачыста ўмацаваў над пісьмовым сталом партрэт — той самы, дзе Э. Г. у швэдры грубага вязаньня — першага і, як здавалася, апошняга песьняра імклівага Гальфстрыму.

Узімку 71-га, падчас вакацыяў, я гасьцяваў у цёткі, што жыла ў Піцеры, і за пяць дзён, не выходзячы з кватэры, прачытаў тры тамы гэмінгуэеўскага чатырохтомніка (цётка працавала бухгальтаркай ў кнігарні і ў яе было шмат цікавых і рэдкіх на той час кніг). Адну таміну прачытаць не пасьпеў і ўзяў з сабой у дарогу. У цягніку, як толькі разівіднела, пануурыўся ў чытаньне. За вокнамі плылі зьнявечаныя зімовай адлігай краявіды, над галавой зацята хроп жаўнер тэрміновай службы, насупраць, ля ног свайго дзіцёнка, сядзела раскудлачаная цётка, якая ад самага ранку ела крутыя яйкі, поўнячы прастору невыносным яешным смуродам, двое дзядзькоў з суседняга купэ раз за разам прасілі ў цёткі ко-



The old man saw lions in his dreams...

навуку, а тая не давала, прамаўляючы адну і тую ж фразу: “Эта для рыбёнка”, прыспаная праваднiца грымела пустымі пляшкамі, незадаволена бубнела на дзядзькоў: “П’яніцы няшчасныя”, а я, водзячы носам па старонках, чытаў шчымлівы раман пра каханьне лейтэнанта Фрэдэрыка й мэдсястры Кетрын. Цягнік праміnуў станцыю Бычыха — мясьціну, дзе нарадзілася мая маці — і ў тую ж хвіліну, упершыню ў жыцьці, у душы нарадзілася пякучая крыўда за матчын край, у якім, як у вапнавай яме, дагаралі мова, вера і памяць, дзе сінім вагнём згарэлі цэрквы і касьцёлы, магнацкія замкі і сялянскія хаты, сьвятыя абразы і старадрукі, дзедаўскія гаршчкі і бабчыны вышыванкі, пайшлі дымам гонар і сумленьне, сьмеласьць і мужнасьць, дзе згарэлі лепшыя людзі, а тыя, што засталіся, кешкаліся на дне ямы, пілі “Санцадар”, грымелі пустымі пляшкамі, хадзілі на дэманстрацыі, выракаліся ўсяго сьвятога, пісалі заявы аб прыёме ў КПСС, ставілі помнікі людажэрам, сталі ў бясконцых чэргах, сьмярдзелі крутымі яйкамі і закарэлымі шкарпэткамі, сцалі на старажытныя муры, завіхаліся на прысядзібных дзялянках, паціху раскрадалі савецкую дзяржаву, ненавідзелі чэхаў, амэрыканцаў і гэбраяў і, прыхоўваючы кемлівую сялянскую ўсьмешку, білі ў ладкі крамлёўскім валадарам.

... Мэдсястра Кетрын памерла падчас родаў і я з уздыхам паклаў кніжку ў торбу; жаўнер пакінуў храпсьці і з воклічам “Ой, бля-а” зьвесіў долу сьмярдзючыя ногі; праваднiца прабегла па вагоне, шматкроць прагарлаўшы “Здавайце пасьцелі!”і ў гэты зорны міг цягнік тузануўся, матлянуўся на стрэлках і запаволіў хаду. Цягнік набліжаўся да станцыі Віцебск, а душа мая, тузануўшыся пад дыхніцай, пачала ад той хвілі няўмольна набліжацца да сваёй галоўнай станцыі, на якой даўно ўжо не затрымліваліся душы тутэйшых людзей і якая насіла груваcткую назву Беларушчына.

Доўгіх чатыры месяцы я жыў пад уражаньнем гэмінгуэеўскай прозы. Мне праглася пабачыць далёкія краіны, мне карцела, па прыкладу старога Сант'яга, лавіць тунцоў і марлінаў, сядзець у парыскай кавярні "Сэлект" і піць кактэйль "Джэк роз", ляжаць у цені раскідзістага баабаба і неадрыўна глядзець на белую шапку Кіліманджара. І вось у траўні мой сябар Толік Рыбікаў папрасіў дапамагчы вынесьці з падвала ягонага дому рознае ламачча ды непатрэбны хломазд. Хломазд мы вынесьлі, звалілі ў кучу і сталі чакаць сьмецьцявозу. Каб заняць нечым рукі, а разам зь імі і вочы, я ўзяў з кучы прапахлую падвальнай цьвільлю хрэстаматыю па беларускай літаратуры. Разгарнуў яе зь зьмяшаным пачуцьцём агіды і зьдзіўленьня: у школе, нібыта, беларускую літаратуру вывучаў, а вось хрэстаматыю бачыў упершыню. Прыкрыўшы даланёю позех, прачытаў вершык Адама Гурыновіча, пазяхнуў яшчэ раз і тут вока зачапілася за эпіграф: "De la musique avant toute chose". Верш быў бяз назвы і нагадваў Тараса Шаўчэнку. "Па-над белым пухам вішняў, быццам сіні аганёк..." Вочы прабегліся па вершаваных радках і прымружыліся: я прачытаў верш паўшэптам і адразу ж запомніў на памяць. Тут жа ў хрэстаматыі былі "Вечар на захадзе ў попеле тушыць...", "Добрай ночы, зара-заранiца!", "Прывет табе, жыцьцё на волі!" і, нарэшце, "Зорка Вэнэра ўзышла..." Максімавы вершы папросту ашаламілі. Я іх чытаў, потым перачытваў; яны гучалі ўва мне, заглушаючы ўсе навакольныя зыкі: сыгналы сьмецьцявозкі, гаману цётак ля пад'езду, бразгат вёдраў і сябруковы вокліч: "Ну што ты там, цягні сьмецьце!" Мяне апанавала Беларусь. Не, не тая Беларусь, дзе я нарадзіўся і жыў, а дзіўны край русалак і лесуноў, зьмяіных цароў і вадзянікоў, залатых агнёў і сініх валошак. Мяне апанаваў той край, дзе жылі Максім і Вэраніка, дзе тнулі ў неба вежы касьцёла сьвятой



Ганны і зіхцелі лятарні, дзе лёталі важкія хрушчы й зялёныя мушкі, дзе кувала зязюля і зьвінелі бомы, лёгкімі хмаркамі наплываў вечар і над зямлёю, працінаючы сэрцы закаханых гойстрымі дзідамі промняў, узыходзіла зорка Вэнэра. Кругагляд маёй душы, у якой не хапала аднаго сэгмэнту, набыў завершаную форму.

Што гэта было? Выпадковы ідэал маладосьці? Форма пратэсту супроць ідыятызму жыцьця? Спроба прарыву з замкнёнай прасторы ў бязьмежжа віртуальнага сьвету, умоўна названага Беларусіяй? Цяжка сказаць, але вось ужо амаль трыццаць гадоў я цялёпкаюся на нябачнай мяжы паміж рэалам да віртуалам, захраснуўшы там намёртва, не прыдбаўшы нічога, апроч хваробаў, адчуваючы розумам, што ніякай Беларусі няма, што гэта прыдумка паэтаў і летуценьнікаў — няшчасных людзей, што скончылі жыцьцё на чужыне, на сьляпучым калымскім сьнезе, у цямноцьці варкуцінскіх капальняў і ў Курапатах. І ўсё адно, у хвіліны горкіх жаляў, пачуўшы назолую фразу: "На што ты паклаў сваё жыцьцё?", альбо пабачыўшы па TV вусатага нячысьціка, альбо пастаяўшы ў чарзе зь вечна п'янымі мужыкамі і падпітымі бабамі, якіх ці то жартам, ці то па злой іроніі называюць беларускім народам, я дастаю з кніжнай паліцы куплены ў траўні 1971 года двухтомнік і сьцярожка разгортваю першы том. Ён заўсёды разгортваецца на трыццатай старонцы і ўвачччу мільгацяць да болю знаёмыя радкі: "Сонца ціха скацілася з горкі, месяц белы, заплаканы сьвеціць..." І сэрца кожнага разу поўніцца ці то сумам, ці то ціхай радасьцю. І кожны раз з душэўнай палёгкай уяўляеш, што ты не самотны, што ёсьць сотні, а мо' й тысячы такіх жа летуценьнікаў, якіх таксама грэе сонца максімавай паэзіі, і ў памяці кожнага разу ўсплывае назва прачытанага калісь рамана, які так прыгожа гучыць на мове арыгіналу:

"The sun also rises".

***Вінцэсь Мудроў.***

**** І ўзыходзіць сонца (анг.)***

*Вінцэсь Мудроў*



# АХВЯРА ДЭМАКРАТЫІ

*казка*

Сёньня ўжо і ня знойдзеш таго, хто першым прамовіў гэтае страшнае слова: дэмакратыя. Зьвяруга той цяпер сядзіць у сваёй нары, страпянаецца ад кожнага зыку і не вылазіць вонкі нават па пільнай патрэбе. Але хто б ён ня быў, той недалуга, ясна адно: слова гэтае ён прыцягнуў з суседняй Вялікай Багны. У той час дэмакратыя ў суседзяў ужо віхурыла і замест таго, каб рыхтавацца да сэзону дажджоў і рыць глыбокія норы, тамтэйшыя зьверы паласкалі раты на мітынгах, а потым, падзяліўшыся на партыі, доўга лаяліся і кідаліся адно ў другога кедровымі шышкамі.

Сёньня пра дэмакратыю ніхто і ня згадвае, а сем гадоў таму нібыта чмура якая апанавала насельнікаў Белага Лесу. Яны павылазілі зь бярлогаў і нораў, прадзерлі прыспаныя вочы і сталі ўголас лаяць небараку Льва — гаспадара тутэйшых мясьцін, — ды патрабаваць ад яго свабоды друку, прыватнай уласнасьці й правядзеньня дэмакратычных выбараў.

Леў, вядома ж, мог гыркнуць, а то і разьдзерці каго з гарлапанаў, але той парой і на яго найшло ачмурэньне. Ён сядзеў у сваёй пячоры, піў нагбом медавуху і напаўвуха слухаў бязладную гаману, што далятала ад Вячыстага Баабаба — месца, дзе звычайна зьбіраліся гарлапаны. Урэшце рэшт гаспадару тутэйшых мясьцін абрыдлі бясконцыя мітынгі і ён даў загад — наладзіць выданьне "Зьвярынай газэты" ды распачаць штодзённыя трансьляцыі ляснога радыё. Павінны, аднак, заўважыць, што калі газэта пачала выходзіць на добрай паперы і вялікім накладам, дык з электроннымі СМІ адразу ж узьніклі праблемы. Адну гадзіну на радыё выпрашана было аддаць гарлапанам, а паколькі радыёрубка месьцілася ў дупле згаданага баабабу, дык туды навыперадкі лезьлі аматары пагарлаць у мікрафон. І вось, калі падчас чарговай бойкі, няўрымсьліваму Барсуку надарвалі вуха, а вілахвостай Чайцы — штатнаму работніку радыё — выдзерлі паўхваста, ля дупла паставілі двух мядзведзяў, якія мусілі пускаць, па чарзе, прамоўцаў да мікрафону, а на гучнагаварыльнік пасадзілі стракатага Дзятла, які адключаў трансьляцыю, калі хто перабіраў свой час. Свабода слова, такім чынам, была забясьпечана. Дзеля поўнай дэмакратыі заставалася толькі правесьці прыватызацыю ды арганізаваць выбары новага гаспадара Белага Лесу. Вось тут Льву і давялося пачухаць парадзелую грыву. Дый дзіва што! Паспрабуй, прыватызуй тыя ж шышкі...

Між тым жарсьці ля Вячыстага Баабаба кожнага дня напаляліся. Дэмакраты сагналі з гучнагаварыльніка стракатага Дзятла, пасадзілі там чорнага Дразда і ўжо не адну гадзіну, а круглыя содні гукалі ў мікрафон, патрабуючы выбараў. Нарэшце, скрычаўшыся, яны прыйшлі да пячоры і сталі гамузам скандаваць, патрабуючы адстаўкі "намэнклятурнага Ільва". І хаця ля пячоры сядзеў тузін шакалаў са службы аховы, ахоўнікі лавілі зяпамі мух, лена чухаліся і ўсім сваім выглядам паказвалі, што абараняць гаспадара ім зусім не выпадае.

Неўзабаве Леў прызначыў выбары і пры гэтым цяжка ўздыхнуў. "А як не аберуць?"— падумаў быў цар зьвяроў і тут жа адагнаў такую думку.

Хваляваца і сапраўды не было падставаў. Галоўны Шакал прынёс сьпіс тых, хто гарлае ля



ЛЁВА



КІРАЎНІК ВЫБАРЧАГА ШТАБУ



ЛЁВАВЫ ДАРАДЦА



РАБОТНІЦА ЛЯСНОГА РАДЫЁ ЧАЙКА



РЭДАКТАР «ЗЬВЯРЫНАЙ ГАЗЭТЫ»



ДЭПУТАТЫ ЛЯСНОГА ПАРЛЯМЭНТУ

баабаба, і сьпіс той аказаўся ня надта вялікім. Да таго ж Бабёр — галоўны рэдактар "Зьвярынай газэты" — правёў апытаньне насельнікаў Белага Лесу і высьветліў, што ў сёньняшняга ляснога гаспадара папросту няма канкурэнтаў. І ўсё-такі стрэмка непакою вярэдзіла львіную душу. Напярэдадні першага туру выбараў ён патэлефанаваў старому сябру — чаратоваму Кату, які жыў у Вялікай Багне і таксама любіў медавуху. Кот зьявіўся ў той жа дзень, выпіў цэбар хмельнага пітва і, абняўшы Ільва, п'янаватым голасам прамармытаў: — Ды не хвалюйся ты, Лёва... Ды якія там выбары! Гыркні пару разоў, каб іх усіх бягунка праняла...

У Вялікай Багне ўсё было вялікае. Вось і чаратовы Кот быў ростам з Ільва: чорны, памаўзьліві, з круглявымі жоўтымі вачыма і адвечна перапэцканым у мазуту хвастом. У Вялікай Багне таксама валадарыў Леў, але хворы і дарэшты ўпіты. Чаратовы Кот і карыстаўся гэтым: краў разам з іншымі катамі гаспадарскае дабро — часьцей усяго, нафтапрадукты, і пры гэтым кожнага разу перапэцкаваў хвост альбо вушы.

Сябруковыя словы супакоілі Лёву. Яны выпілі на разьвітаньне па цэбару медавухі, смачна абняліся і Бабёр — галоўны рэдактар "Зьвярынай газэты" — засьняў гэты момант, каб на наступны дзень даць фотаздымак у газэту.

На наступны дзень, ад самага ранку, газэта з памятным фотаздымкам была расклеена па дрэвах, але яе ніхто не чытаў. Усе беглі да Вячыстага Баабаба, дзе — таксама ад ранку — з гучнагаварыльніку вырывалася на прасьцяг мэлёдыя з кінафільму "Мой ласкавы пяшчотны зьвяруга", і дзе, надзейна прымацаваная да неабдымнага стаўбура, вісела чырвоная выбарчая скрыня.

Апісваючы падзеі, якія надарыліся ў Белым Лесе, мы нездарма абралі такі жанар, як казка. Бо ж гэта толькі ў казках цара зьвяроў на выбарах можа апярэдзіць, ды яшчэ зь вялікім адрывам, нікому не вядомы Мурашкаед.

Наперадзе, аднак, быў другі тур і Леў, які два дні піў без прабуду, на трэці дзень сабраў у пячоры свой выбарчы штаб.

Гаспадар Белага Лесу сядзеў у тарцы стала і сьвідруючадапытлівымі вачыма глядзеў на падначаленых. Праваруч ад яго варушыўся ў крэсьле шэры Воўк — кіраўнік выбарчага штабу. Яшчэ зусім нядаўна гэты самы Воўк блукаў, пабіты і галодны, па лесе і мінулым перадзім'ем, дарэшты скалеўшы, скраў з грамадзкага складу аўчынны кажух. Вартаўнікі яго злапалі; небараку пагражаў суд, але, як тое часта здаралася ў Белым Лесе, злодзей апынуўся не ў судзе, а ў ільвінай адміністрацыі. З той пары Ваўка стала не пазнаць. Поўсць ваўчыная заблішчэла, пыса акруглела, а на галаве зьявіўся цыліндар: Воўк знайшоў яго недзе на ўзлеску, нацубіў, дзеля паважнасьці, на левае вуха і быў з тае нагоды празваны Капіталістам.

Насупраць шэрага Ваўка сядзеў ільвіны дарадца Шашок, вядомы тым, што замятаў хвастом свае сьляды. На свайго дарадцу Леў, аднак, рупіўся не глядзець. Шашок быў прысланы зь Вялікай Багны і шпіёніў за гаспадаром. Леў пра гэта ведаў, але нічога зрабіць ня мог. Супроць суседзяў не папрэш: там нават каты велічынёй з тыгра.

Далей сядзелі, падцяўшы хвасты, Бабёр з Галоўным Шакалам і яшчэ пару гіенаў — дэпутатаў ляснога парлямэнту.

— Ну дык што... так і будзем маўчаць? — выдыхнуў Леў, неадрыўна пазіраючы на падначаленых. Усе сядзелі, панурыўшы галовы і Леў, грукнуўшы лапай па стале, злавесна рыкнуў: — Хто ён наогул такі, гэты Мурашкаед? Адкуль ён узяўся?

Запанавала гнятлівая цішыня, якая перарывалася ляскатаньнем ільвінага хваста аб падлогу. Невядома — колькі б доўжылася гэтая ціша, ды тут шэры Воўк кашлянуў, паправіў цыліндар і разгарнуў скрутак дробна сьпісанай бяросты.

— "Мурашкаед звычайны... Myrmecophaga tridactyla — з цяжкасьцю прачытаў Воўк і аддзьмуўся. — Даўжыня цела 120 сантымэтраў, важыць 22 кіляграмы. Морда выцягнутая, трубкападобная..."

— 22 кіляграмы вагі,— прамовіў Леў, з кіслай усьмешкай хітаючы галавою. — У мяне яйцы больш важаць...

Ізноў запанавала цішыня і Леў, раскінуўшыся ў крэсьле, з сардэчным клёкатам у горле запытаў: — Ну вы хоць уяўляеце — якой нікчэмнасьці мы аддаем свае лёсы!

— У яго язык 60 сантымэтраў, — падаў голас Бабёр, паціраючы мокрую патыліцу. — Лупіць ім як церніцай. Чуеце?

Усе наструнілі слых. Удалечыні



ЛЁВАВЫ СЯБРУК



ГАЛОЎНЫ ЛЯСНЫ ДЭМАКРАТ



УСЕЖЫВЁЛЬНААБРАНЫ ГАСПАДАР БЕЛАГА ЛЕСУ

гулкім рэхам абзывалася лясное радыё. Зьвяглівы голас то мацнеў, то цішэў, зрываючыся на высокай ноце, і разабраць можна было толькі асобныя словы.

— І што ён там прамаўляе? — запытаўся Леў.

— Абяцанкі сыпле, — азваўся Бабёр. — Цяпер, кажа, ні на паляваньне, ні на вадапой хадзіць ня трэба: у кожнага будзе і вада, і ежа.

— Яны што, зь неба зваляцца? — хмыкнуў Леў. Пачуўшы, якую лухту вярзе супернік, цар звяроў пажвавеў, задаволена пачухаў валасатую грудзіну. — Хто ж гэтаму балбатуну дасьць веры!

— Дадуць! — гамузам адказалі падначаленыя, — усё жыцьцё сядзелі ў норах, цяпер во павылазілі... слухаюць, ляпы раскрыўшы.

Усьмешка зьбегла з ільвінай пысы і пыса прыкметна выцягнулася ўшыркі. Толькі цяпер дайшло да гаспадара — зь якім небясьпечным супернікам зьвёў яго пакручасты лёс. "Трэба зьвязацца з Катом, можа чым дапаможа",— падумаў Леў і падняўся з крэсла.

Не сказаўшы ні слова падначаленым, Леў пайшоў у дальні канец пячоры, дзе вісеў тэлефон і зьняў слухаўку. Зь Вялікай Багнай доўга не злучалі, нарэшце, злучылі і мэмбрану скалануў незадаволены кашэчы голас: — Слухаю.

— Ну, чуў, што ў нас надарылася? — запытаўся Леў, нэрвова кашлянуўшы.

— Чуў, — мрукнуў Кот і ўздыхнуў. — Ты, браток, выбачай, але нічым дапамагчы не магу. Тут у нас шаблезубыя тыгры абудзіліся, да ўлады лезуць. Яны твайго суперніка і падтрымалі...— на другім канцы дроту яшчэ нешта казалі, ды Леў не стаў слухаць — мацюкнуўся, з грукатам павесіў слухаўку, і за сьпінай ягонай мільгануў увішны цень: гэта Шашок, падслухаўшы тэлефонную размову, вужом праслізнуў ля сцяны.

Дзесьці праз гадзіну, сёрбнуўшы медавухі, Леў вярнуўся да стала і не знайшоў там сваіх падначаленых.

— Эй, дзе вы там? — незадаволена гукнуў цар зьвяроў і млявае рэха паволі аціхла ў дальнім канцы пячоры. Усхваляваны, ён выйшаў на падворак, рыкнуў, што меў сілы, і з бліжэйшых кустоў вытыркнулася задаволеная пыса Барсука — галоўнага ляснога гарлапана.

— Што, скончылася тваё панаваньне? — Барсук штосьці жаваў і вочы ягоныя сьвяціліся ад шчасьця. — Цівуны твае да новага гаспадара зьбеглі. Вунь, на ўзлеску, нараду ладзяць. Дае ім пытлю — аж тут чуваць.

— Як гэта — зьбеглі?.. — прашаптаў Леў і плюхнуўся азадкам на гарачы пясок.

Ужо і сонца прыхавалася ў засень баабабаў, і вечаровы ветрык кранууўся сьпіны, а Леў усё сядзеў і думаў — які гнюсны сьвет і якія подлыя істоты яго насяляюць.

Цэлы тыдзень Леў не выходзіў зь пячоры: спаў, піў медавуху, потым ізноў спаў і пэўнага ранку яго абудзіла гучнае карканьне. Небарака разьмежыў цяжкія павекі, але ўбачыў не Варону, а вілахвостую Чайку — тая сядзела на цэбары з-пад медавухі і чысьціла пёры.

— Кар-р,— гракнула Чайка, убачыўшы, што былы гаспадар ачуўся ад сну. — Цябе Шашок выклікае. Будзе чакаць а пятай гадзіне ля Гнілога Пня.

Леў роспачна пазяхнуў і, ня ведаючы — што сказаць у адказ, запытаўся: — Чаго гэта ты на чужой мове гарлаеш?

— У нас цяпер дзьвюхмоўе, — азвалася госьця і вомігам вылецела зь пячоры.

Леў ізноў пазяхнуў і насупіўся. Цару звяроў, хай і адстаўному, бегаць па выкліках нібыта і не выпадала, але ж цікава было ўведаць: навошта яго выклікаюць? І Леў, падумаўшы, што яму, відаць, прапануюць нейкую пасаду, рушыў да Гнілога Пня.

Па дарозе ён сустрэў дзіўную белагаловую істоту, якая кульгава клыпала, абапіраючыся на сукаваты друк. Падышоўшы бліжэй, Леў пазнаў Барсука — галоўнага ляснога дэмакрата. Галава барсучыная была забінтаваная, а левая лапа матлялася на тальмаху.

— Хто гэта цябе? — уразіўся Леў.

— Ш-шакалы...— выдыхнуў Барсук, зірнуўшы праз плячо ў бок Вячыстага Баабаба.

"За маім панаваньнем цябе ніхто ня біў", — хацеў было сказаць Леў, але тут на Вячыстым Баабабу абудзілася лясное радыё і Чайка, гракнуўшы па-варонінаму, натхнёна засакатала:

— Сёньня ў нас у гасьцях Варона Загуменная. Яна раскажа — як на загуменьні ўпрынятая ініцыятыва Усежывёльнаабранага Гаспадара па навядзеньні парадку ў лесе...

Леў з Барсуком пераглянуліся, хітнулі галовамі і разышліся ў розныя бакі.

За апошні тыдзень шмат што зьмянілася ў лесе. Вось і былога дарадцу цяпер было не пазнаць. Ранейшым часам ён бегаў вакол шэфа на паўсагнутых, а зараз сядзеў на Гнілым Пні і з нахабным выглядам матляў задняй лапай.

— Прасілі табе перадаць, каб ты сядзеў ціха і не балбатаў лішняга, — прагугнеў Шашок, не павітаўшыся.

Леў быў наогул істотай дабрадушнай і ніколі не паказваў кіпцюроў, але тут кіпцюры самі выпрасталіся зь мяккіх падушачак. Шашок гэта заўважыў, а таму пусьціў смурод і зьнік зь відавоку.

— А будзеш балбатаць — вусы выскубем і хвост вузлом завяжам, — крыкнуў напасьледак былы дарадца і вялікая зграя шакалаў заварушылася ў навакольных кустах.

На смурод зьляцеліся мухі: яны лезьлі ў вочы, казыталі ў носе, сьвярбліва поўзалі па сьпіне. Леў ляснуў па баках мяцёлкай хваста, страсянуў, ратуючыся ад заедзі, кудлатай грывай і прамовіў фразу, якую потым доўга паўтаралі насельнікі Белага Лесу:

***— І на х... мне была гэтая дэмакратыя?***

# Ці трэба нам такая апазыцыя?
## (бязладныя нататкі з пэўнай нагоды)



Усебеларускі зьезд за незалежнасьць, які, на думку яго арганізатараў, мусіў стаць падзеяй гістарычнага сумеру, адбыўся, але здабыткам натурыстай спадарыні Кліо, на жаль ня стаў. Ва ўсякай сур'ёзнай дзеі мусіць быць свой эфэктны пачатак. Так, вайна за незалежнасьць ЗША пачалася са славутага бостанскага "чаяваньня", а Вялікая французская рэвалюцыя — з узяцьця Бастыліі. Апроч таго, сур'ёзныя дзеі на гістарычнай сцэне патрабуюць адпаведных актораў, кшталту Мірабо з Лафайетам, альбо Франкліна з Джэфэрсанам. Ну а паколькі ў беларускай апазыцыі няма свайго Мірабо, як і няма свайго Франкліна, застаецца адно: штогоду зьбірацца ва ўтульнай залі Палаца культуры ВА "Сукно" ды чытаць палымяныя, сотні разоў чутыя дагэтуль прамовы.

Зрэшты, адна падзея сёлетняга "тэатральнага" сэзону сарвала воплескі і прыцягнула ўвагу гледачоў да — хай і не маладой, але дастаткова экспансыўнай акторкі. Мы маем на ўвазе выпадак, калі сп-я Юлія Чыгір — жонка былога экс-прэм'ера — ці то адкусіла, ці то спрабавала адкусіць вуха міліцыянту. Адно што рабіла гэта яна абараняючы не беларускую дэмакратыю, а ўласнага мужа. Згадаем таксама, што ў памятным 1995 годзе, калі Лукашэнка зьнішчаў мову, нацыянальную сымболіку і парасткі дэмакратыі ў нашай краіне, сужэнства Чігіроў аддана слугавала сюзэрэну — муж ачольваў урад (памятаеце, як ён, стоячы ў сваім скураным палітоне, лісьліва пасьміхаўся лукашэнкаўскім жартам), а сужэнка гуртавала вакол сябе жонак міністраў і яны штотыдня зьбіраліся разам, каб выпіць гарбаты, ды прадэманстраваць адна другой модныя сукенкі.

Часіны зьмяніліся і вось ужо згаданае сужэнства, а разам зь ім і процьма іншых "апазыцыянэраў" спрабуюць патрапіць у лукашэнкаўскі парлямэнт. Чатыры доўгія гады гэтыя людзі казалі народу, што парлямэнт той нелігітымны і ня мае паўнамоцтваў, а варта было Лукашэнку сьвіснуць у чатыры пальцы і махнуць рукой, як яны на злом галавы кінуліся балятавацца кандыдатамі ў дэпутаты квазіпарлямэнту. Так што калі сёньняшняя "шыпучка" і "малафейня" — зьявы цалкам нелігітымныя, дык з прыходам туды "апазыцыйных сілаў", сытуацыя зьменіцца і "парлямэнт" набудзе нарэшце міжнароднае прызнаньне.

***Ю. Іваноўскі.***




Я хацеў бы распавесьці пра невялікую падзею, якая са мной здарылася ў маладосьці. Навучаўся я тады ў Рыскім політэхнічным інстытуце. Недзе курс трэці. Еду тралейбусам у цэнтры. А тралейбус той ішоў да кальца, якое вакол помніка Свабоды, – хто бываў у Рызе, той цудоўна ведае гэты помнік. Ён сымбалічны для латыскага народа.

Праз некалькі прыпынкаў заходзяць у тралейбус два падпітых латышы. З выгляду такія асобы зь нізоў, калі не сказаць болей. Сядзяць яны, паміж сабой размаўляюць, але паколькі дрэнна арыентуюцца ў прасторы і часе, адзін падыйшоў да мяне, бо ў тралейбусе няшмат было людзей, і пытае: – Куды ідзе гэты тралейбус? – Да Свабоды. – А ці ведаеш ты, што такое свабода? Я кажу: – Канешне ведаю. – Не, ня ведаеш.

Латыш расшпільвае, амаль разрывае сваю кашулю – і на грудзях вялізны гэты помнік Свабоды вытатуіраваны. І вось тады я адчуў, што калі ў народа, нават у такіх людзей зь нізоў, ля сэрца свабода, ён абавязкова мусіць дасягнуць гэтай свабоды.

Тады я для сябе зрабіў выснову, што толькі маючы ў сэрцы свабоду, і мой народ можа дамагчыся яе.

**Міхась Баўтовіч**

# БАРБАР У ЭЎРАПЕЙСКІМ КАМЗОЛЕ

**“Полацкія пакутнікі”: збор дакумантаў. Укладаньне й апрацоўка М.Баўтовіча. Полацак. Выдавецтва “Сафія”, 2000г.**

Выдавецтва “Сафія, што дзеіць пры полацкай грэка-каталіцкай грамадзе, выдала зборнік гістарычных дакумантаў, датычных забойства расейскім царом Пётрам I і ягонымі цівунамі пяцёх манахаў-базыльянаў. Гісторыя гэтая сягае 1705 году. Менавіта тады, у разгар Паўночнай вайны, старажытны Полацак наведаў расейскі цар Пятро Аляксеевіч. У згаданым зборніку, што мае назву “Полацкія пакутнікі”, зьмешчаныя тэксты дакумантаў тамтэйшай пары, якія высьвятляюць абставіны крывавай масакры, учыненай царом і ягонымі служкамі ў катэдральнай царкве сьв. Сафіі. У кніжцы фігуруюць беларускія кронікі, а таксама пісьмовыя крыніцы польскага, італійскага, пранцускага ды расейскага паходжаньня, прычым большасьць дакумантаў даецца на мове арыгіналу з перакладам на беларускую мову.

“Забойства Пятром I і ягонымі вайскоўцамі манахаў-базыльянаў,— гаворыцца ва ўступе да кніжкі, — і да сёньня не атрымала належнага асьвятленьня й розгаласу”. Замоўчвалася гэтая трагічная падзея і напачатку XVIII стагодзьдзя, бо Расея на той час падтрымлівала караля Рэчы Паспалітай Аўгуста II у ягоным змаганьні са швэдамі. Таму дзяржаўныя колы Рэчы і не былі зацікаўленыя ў пашырэньні зьвестак пра полацкія падзеі. Ня дзіва, што ў выніку захавалася няшмат пісьмовых сьведчаньняў крывавай бойні. I ўсё ж з таго, што маем, вынікае наступнае:

11 ліпеня 1705 году, прыкладна а шостай гадзіне вечара, у царкву сьв. Сафіі увайшоў расейскі цар Пётра I са сьвітай. Пры гэтым, як сьведчаць відавочцы, маскоўскі валадар быў на падпітку.

Тым часам служба ўжо скончылася і ў царкве знаходзілася толькі некалькі манаскіх дастойнікаў, у тым ліку і вікары базыльянскага манастыру а. Канстантын Зайкоўскі.

Цар стаў аглядаць абразы і, убачыўшы абраз сьв. Язафата Кунцэвіча, запытаўся ў вікарыя: — Хто гэта такі? Пачуўшы, што гэта сьвяшчэннамучанік, цар спытаў: — А хто яго замучыў? — Віцябляне, — адказаў вікары. — А якой веры? — не сунімаўся цар Пётар.

Вікары змоўк і тады царскі памагаты Меншыкаў пагрозьліва прамовіў: — Сказуй жа, якой веры!

I а. Канстантын адказаў: — Той веры, што і твая міласьць.

Пасьля таго цар, які быў чалавекам дарэшты неталерантным, стукнуў вікарыя кулаком у зубы, ляснуў кіем па галаве і выцягнуў з похваў шпагу. Пабачыўшы гэта, схапіліся за зброю і царскія служкі, у выніку чаго былі забітыя чацьвёра манахаў, а вікары, айцец Канстантын Зайкоўскі, пасьля катаваньняў быў павешаны.

У XVIII стагодзьдзі Эўропа пабачыла многае; пад час той жа Паўночнай вайны на Беларусі загінуў кожны трэці жыхар. I ўсё ж забойства царскай асобай бязьвінных людзей, ды яшчэ ў Божым храме, не магло ня ўражваць і гэтае ўражаньне чытаецца ў кожным дакуманце.

Зрэшты, зьмешчаныя ў зборніку і так званы мэмарыял Пятра I, у якім выкладаецца царская вэрсія падзеяў. Паводле яе, манахі абражалі цара, зьбіраліся аказаць яму збройны супраціў, з чаго і зазналі сьмерць. Аднак такую вэрсію трэба разглядаць як несур’ёзную.

Дадамо прыканцы, што ў памяць пакутнікаў полацкія грэка-каталікі (а базыльяне — грэка-каталіцкі ордэн) ладзяць напачатку ліпеня штогадовыя пешыя пілігрымкі зь Віцебска ў Полацак. Ладзяцца яны ў абсадзе падрыхтоўкі бэатыфікацыі — залічэньня ва ўлоньне сьвятых — забітых манахаў і ў сёлетняй пілігрымцы бралі ўдзел 125 вернікаў.

***Аглядальнік.***

# ПАД ВЕТРАЗЕМ ХРЫСТА

Чатыры дні — зь 1 па 4 жніўня — у Мёрах праходзіў маладзёвы каталіцкі фэст, які атрымаў назву “Пад ветразем Хрыста”.

Ладзіўся ён з блаславеньня віцебскага біскупа а. Уладыслава Бліна, а яго непасрэдным арганізатарам стаўся ксёндз а. Уладас Пятрайціс — палкі прыхільнік Беларушчыны, які шмат зрабіў дзеля беларусізацыі касьцёла.

Месцам правядзеньня духовай імпрэзы была абраная паўвыспа маляўнічага Мёрскага возера і ў ёй удзельнічалі звыш 400 маладых вернікаў з усіх куткоў Віцебшчыны. Заўважым, што сярод прысутных былі і клерыкі Гарадзенскай вышэйшай духовай сэмінарыіі.

Арганізавалі фэст належным чынам: на зялёнай лугавіне паставілі радыёфікаваную эстраду, змайстравалі лаўкі для гледачоў, патурбаваліся гаспадары і пра сілкаваньне шматлікіх гасьцей.

Ну а пачынаўся фэст ужо а пятай гадзіне, калі яго ўдзельнікі пакідалі намёты, каб шчырай малітвай сустрэць сонца. А потым, да самага вечару, з эстрады гучалі беларускія хваласьпевы і псальмы.

Зрэшты, сьпевамі і музыкай праграма фэсту не абмежавалася. На другі дзень моладзь арганізавала крыжовы ход вакол Мёрскага возера, а сябры каталіцкага руху “Сьвятлом жыцьцё”, якія таксама прыехалі ў Мёры, ладзілі гутаркі і праводзілі эвангелізацыю юнакоў і юначак. Адбылася таксама сустрэча зь вядомай пісьменьніцай Ірэнай Жарнасек. I ўсе чатыры дні фэсту панад возерам гучала беларуская мова і пры гэтым нават мясцовыя дзядзькі, што прыходзілі паслухаць сьпевы, былі цьвярозымі.

Удзельнікі імпрэзы разьехаліся па сваіх хатах зь цьвёрдым намерам ізноў прыехаць на на бераг Мёрскага возера на наступны год. Арганізатары фэсту мерацца зрабіць яго традыцыйным і спадзяюцца, што праз год сюды прыедуць маладыя вернікі з усяе Беларусі.

Фэст у Мёрах яшчэ раз паказаў — як мусяць дзеяць абаронцы Беларушчыны. Замест таго, каб стаяць у пікетах, пісаць адозвы да ўладаў і наракаць на цяжкі лёс, яго арганізатары пайшлі зь беларускім словам да моладзі і слова, сказанае ў імя Бога, засталося ў маладых душах.

V.M.

Інфармацыйнае выданьне
Грамадзкага Аб’яднаньня Культурніцка-Асьветніцкіх Ініцыятываў “УСЯСЛАЎ ЧАРАДЗЕЙ”.
Распаўсюджваецца на правох рукапісу.
Адраса для допісаў: 211440 Наваполацак-8, п\с № 26

Рэдакцыйная Рада: Вінцэсь Мудроў, Васіль Храмцоў, Уладзімер Кунцэвіч.